# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

6 лістапада 2020 года №45 (1332)

18+





старонкі 18-19

Ваду правярае з дапамогай тэст-палосак Фёдар Міхееў, гаспадар аграсядзібы «Шляхецкая брама», Малое Запруддзе, Валожынскі раён.

Фота Аўгіні МАНЦЭВІЧ.

# «Нітраты самі з каструлі не выскачаць»

## Чаму важна правяраць пітную ваду і як гэта можа зрабіць кожны

**Што вядома пра затрыманне маладзечанскага актывіста Руслана Кісялёва**

старонка 21

**Праз 79 год прах Змітрака Бядулі вярнуўся на радзіму. Чытайце, як адбывалася перапахаванне і як пісьменнік звязаны з Вілейшчынай**

старонка 8

**Як у бібліятэцы «Верасок» падвялі вынікі тыдняў Германіі**

старонка 20



ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# «Ёсць невялікі рост каронавіруса, аднак сітуацыя пад кантролем»

## Галоўны доктар Вілейскай ЦРБ расказала пра сітуацыю з COVID-19

ВІЛЕЙКА

**Ад 30 кастрычніка тэрапеўтычнае аддзяленне ў Вілейскай ЦРБ на 45 ложкаў перапрафілявалі ў інфекцыйнае. Тут будуць лячыць хворых на цяжкую пнеўманію і хваробу сярэдняй цяжкасці. Раней такія хворыя лячыліся ў перапрафіляваных аддзяленнях іншых раёнаў.**

Пра тое, якая сітуацыя на Вілейшчыне з сезоннымі прастуднымі захворваннямі і COVID-19, якую прафілактыку робяць у раёне, каб знізіць распаўсюджанне каронавіруса, мы распыталі ў галоўнага доктара бальніцы **Ірыны Макаравай**.

– Цяпер назіраецца рост вірусных інфекцый. Гэта звычайная сітуацыя для восені. Што да каронавіруса, мы маем таксама невялікі рост у раёне. Аднак сітуацыя пад кантролем. Работнікі Вілейскай ЦРБ і раённага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі стараюцца як мага раней заўважыць захварэлых, працуюць з кантактамі першага ўзроўню, – тлумачыць Ірына Паўлаўна.

### Якую прафілактыку праводзяць у медустановах

Як расказала галоўны доктар, у ЦРБ праводзяць наступныя прафілактычныя меры, каб знізіць распаўсюджанне каронавіруса:

- у бальніцы і паліклініцы раздзяляюць пацыентаў на «чыстых» і пацыентаў з прыкметамі ВРВІ, павышанай тэмпературай;
- на ўваходзе медсястра павінна апытаць кожнага чалавека пра яго стан, памераць тэмпературу. Калі падчас такога агляду з'яўляецца падазрэнне на інфекцыю, пацыента накіроўваюць у інфекцыйныя кабінеты праз асобны ўваход у паліклініку.

У інфекцыйных кабінетах атрымліваюць дапамогу хворыя на пнеўманію і ВРВІ, якім не трэба шпіталізацыя.

### Інфекцыйныя кабінеты працуюць ад 8:00 да 20:00

Адміністрацыя бальніцы штодзень ацэньвае сітуацыю па захворваннях. Калі з'яўляюцца чэргі, то павышаецца колькасць работнікаў у інфекцыйных кабінетах і падаўжаецца час працы. Інфекцыйныя кабінеты працуюць ад 8:00 да 20:00, прымаюць тры доктары, а фельчар-лабарант на працягу ўсяго працоўнага дня бярэ аналізы.


Надышла другая хваля каронавіруса.

Па Вілейшчыне створаныя чатыры кантактныя групы. Адна працуе ў горадзе, тры – на раёне.

Медработнікі абследуюць, назіраюць і аказваюць медпамогу хворым з каронавіруснай інфекцыяй і кантактам першага ўзроўню дома.

– Усе аддзяленні бальніцы, акрамя інфекцыйнага, працягнуць працаваць у штатным рэжыме, – падсумавала галоўны доктар.

Экспрэс-тэст на наяўнасць каронавіруса па-ранейшаму можна здаць на платнай аснове ў Вілейскай ЦРБ.


Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Рыбалка на Вілейшчыне.

# У лістападзе забараняюць лавіць сіга і рапушку

## За адну рыбіну парушальнік заплаціць 243 рублі

**Лоўлю сіга забаранілі ад 1 лістапада да 15 снежня, а рапушкі – ад 15 лістапада да 20 снежня.**

Адной з асаблівасцей рапушкі і сіга з'яўляецца іх нераст позняй восенню, які пачынаецца пры тэмпературы вады два-тры градусы цяпла. Апошнія гады папуляцыя сіга і рапушкі зніжаецца, тым самым прымаецца шэраг мер па захаванні гэтых відаў. Адна з якіх – абмежаванне тэрмінаў і месцаў лоўлі сіга і рапушкі ў перыяд іх нерасту.

Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету нагадвае, што ў перыяд забароны павялічваюцца штрафныя санкцыі. Пры незаконным вылаве відаў рыб, якія нерастуюць, акрамя штрафу, давядзецца кампенсаваць шкоду, нанесеную прыродзе.

Кожны злоўлены сіг і рапушка, незалежна ад памераў, абыдзецца парушальніку ў дзевяць базавых велічынь – 243 рублі за рыбіну.

А калі браканьер незаконна здабудзе 12 рапушак, гэта прыблізна паўкілаграма, то ў дачыненні да яго ўзбудзяць крымінальную справу.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету просіць паведамляць аб гэтым на тэлефон даверу **(8-017) 390-00-00** альбо на нумар **(8-017) 975-07-40**. Інфармацыю правераць.

**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы раслiннага і жывёльнага свету.**

## У вяскоўца знайшлі незарэгістраваны абрэз, патроны, гільзы і сеткі

**15 кастрычніка супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету і дзясятага ўпраўлення Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй правялі перагляд у жыхара Вілейшчыны.**

ВІЛЕЙКА

Падчас перагляду канфіскавалі агнястрэльную зброю – абрэз – і баявыя патроны розных калібраў, у тым ліку шматлікія гільзы да гладкаствольнай зброі розных калібраў, а таксама складнікі да рыштунку патронаў – кулі, порах.

Мядзельскія інспектары канфіскавалі ў фігуранта рыбалоўныя сеткі агульнай даўжынёй 880 метраў.

Па факце незаконнага захоўвання зброі і боепрыпасаў вырашаюць пытанне аб узбуджэнні крымінальных спраў па частцы 2 артыкула 173, артыкулах 203 і 204 Крымінальнага кодэкса.

Таксама за незаконнае захоўванне сетак у дачыненні да грамадзяніна склалі адміністрацыйны пратакол па артыкуле 15.36 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях, паведамілі ў Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**18**

столькі прадуктовых крам на 10 000 чалавек працавала ў Беларусі ў 2019 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.10 | 5.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5990 | **2.6430** |
| Еўра | 3.0521 | **3.0842** |
| Злоты, 10 | 6.6137 | **6.7773** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3365 | **3.3397** |
| Грыўня, 100 | 9.1503 | **9.2733** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **28.10** | **4.11** |
| Еўра | 3.0000/3.1200 | **3.0300/3.1300** |
| Долар ЗША | 2.5500/2.6500 | **2.6000/2.6800** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **28.10** | **4.11** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,85 | **20,75** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,35 | **2,35** |
| Алей, 1 л | 3,50 | **3,50** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,00 | **1,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,40 | **2,40** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 2,00 | **2,10** |
| Перац, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 3,20 | **3,40** |
| Вінаград, 1 кг | 3,70 | **3,80** |
| Гранат, 1 кг | 5,40 | **5,40** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,15 | **2,15** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | **3,20** |

## Зніклую віляйчанку знайшлі ў адной з бальніц Масквы

ВІЛЕЙКА

Пра тое, што знікла 20-гадовая віляйчанка **Аліна Кучарэнка**, мы пісалі ў пачатку кастрычніка. Дзяўчыну шукалі вілейская міліцыя і валанцёры атрада «Анёл». Як паведамілі сёння ў Вілейскім РАУС, днямі дзяўчына знайшлася.

Яна была ў Маскве, у адной з бальніц горада. Цяпер – дома.

Нагадаем, што дзяўчына паехала на заробкі ў Падмаскоўе і не выходзіла на сувязь ад 6 чэрвеня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## 18-гадовы хлопец збіў мужчыну і кінуў на ўзбочыне

СМАРГОНЬ

Раніцай 25 кастрычніка знайшлі цела 48-гадовага мужчыны ў вёсцы Вялікая Мыса без прыкмет жыцця.

Па дадзеных следства, увечары 24 кастрычніка мясцовы жыхар піў спіртныя напоі ў кампаніі наглядна знаёмых аднавяскоўцаў. На глебе канфлікту 18-гадовы хлопец збіў мужчыну, а затым пакінуў яго на абочыне дарогі, недалёка ад месца канфлікту, пасля чаго працягваў выпіваць.

Следчыя правялі агляд месца здарэння, зафіксавалі следавую карціну. На канфіскаваныя аб'екты прызначылі шэраг неабходных даследаванняў, дапыталі падазраваных і відавочцаў таго, што адбылося.

Дзеянні хлопца кваліфікаваныя па частцы тры артыкула 147 Крымінальнага кодэкса (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання, што пацягнула па неасцярожнасці смерць пацярпелага).

Абвінавачаны змешчаны пад варту.

Канчатковая прававая ацэнка яго дзеянням будзе дадзеная па выніках расследавання.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Пад колы трапіў падлетак

МАЛАДЗЕЧНА

29 кастрычніка ў 18:15 у Маладзечне на Віленскай 29-гадовы кіроўца-маладзечанец наехаў на 15-гадовага падлетка.

– Кіроўца на «Таёце» ехаў па Віленскай у кірунку Вялікага Гасцінца. Каля дома №7 ён наехаў на 15-гадовага пешахода з Маладзечна, – расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

Падлетак пераходзіў дарогу па нерэгуляваным абазначаным пешаходным пераходзе злева направа па ходу руху машыны. Падлетка з цялеснымі пашкоджаннямі шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне дзіцячай бальніцы. У яго закрыты пералом абедзвюх костак правага перадплечча са змяшчэннем.

**Аксана ЯРАШОНАК**

## 86-гадовы раварыст загінуў на чыгунцы

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося раніцай 4 лістапада.

Чытачы паведамілі нам, што ў межах Вілейкі, каля аўтапарка №5, экстранна спыніў цягнік «Полацк-Мінск». На месцы працавалі медыкі і міліцыя.

Як паведамілі ў Вілейскім РАУС, 86-гадовы мужчына пераязджаў пуці на вуліцы 1 Мая і не заўважыў цягнік. Ад сутыкнення загінуў на месцы.

Пасажырам аб'явілі, што ў Мінск цягнік прыбудзе са спазненнем на адну гадзіну дзесяць хвілін.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечанае Валянцінай СОПАТ.

Агонь пашкодзіў матрацы. Дзяцей выратавалі.

# Работнікі МНС выратавалі з пажару двое дзяцей

## Аднаму – тры гады, другому – паўтара

**2 лістапада ў 16:25 у ГРАНС Маладзечна паведамілі пра загаранне кватэры шматкватэрнага жылога дома па вуліцы Францыска Скарыны ў Маладзечне. У службу выратавання звярнулася жанчына, якая праходзіла міма і ўбачыла дым з акна кватэры на восьмым паверсе дзевяціпавярхоўкі.**

МАЛАДЗЕЧНА

Калі выратавальнікі прыбылі да месца выкліку, у кватэры было моцнае задымленне. У адным з пакояў гарэла пасцель. У кватэры было двое дзяцей, паўтара і трох гадоў: малодшае спала ў суседнім пакоі, старэйшае знаходзілася ў калідоры. Пакінуць кватэру самастойна дзеці не маглі, бо ўваходныя дзверы былі зачыненыя.

**Дарослых у кватэры не было.**

Работнікі МНС выратавалі дзяцей. Тыя былі ў свядомасці. Іх перадалі брыгадзе хуткай медыцынскай дапамогі. У бальніцу дзеці паехалі ўжо ў суправаджэнні маці, якая прыйшла на месца здарэння. Прычына пажару высвятляецца, расказалі ў ГРАНС Маладзечна.

МНС папярэджвае: прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. Не пакідайце дзяцей адных без нагляду. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112, не забываючы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Вілейцы міліцыянеры перапісвалі дадзеныя жанчын з шарыкамі, а потым вырашалі, што рабіць з журналістамі

**1 лістапада карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» паглядзелі, ці адбываюцца ў Вілейцы нядзельныя пратэстныя акцыі. Разам з жанчынамі з бел-чырвона-белымі шарыкамі мясцовых міліцыянераў зацікавілі і нашы журналісты.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

У жанчын у Вілейцы пытаюцца іх імёны.

У вілейскім парку ля плошчы, дзе ў нядзелю праходзіў кірмаш, гуляюць дзеці з бацькамі, ходзяць нешматлікія мінакі. У цэнтры парку ля помніка стаяць лампадкі белага і чырвонага колераў.

Цэнтр горада патрулююць супрацоўнікі органаў унутраных спраў, разам з мужчынамі ў форме ходзяць і жанчыны-міліцыянеры. Міліцыянеры былі без масак і балаклаваў – у Маладзечне, наадварот, многія супрацоўнікі закрываюць твар.

У аднаго з супрацоўнікаў Вілейскага РАУС у руках відэакамера – на яе ён здымае людзей, у якіх іншы сілавік правярае дакументы. Яшчэ ў адной жанчыны ў форме ў руках сшытак, куды запісваюць дадзеныя прысутных.

Увагу вілейскіх міліцыянераў прыцягнулі жанчыны, што шпацыравалі па парку і трымалі ў руках белыя і чырвоныя шарыкі. Калі жанчыны спыніліся, да іх у хуткім часе падышлі супрацоўнікі. Міліцыянеры патрабавалі іх назвацца. Жанчыны спрабавалі высветліць, навошта гэта трэба. Прадстаўнікі вілейскай міліцыі сказалі, што пасля высвятлення асобы жанчын адпусцяць.

Пасля гутаркі міліцыянеры ўсё ж даведаліся дадзеныя дзяўчат, а яшчэ дзвюх забралі на прафілактычную гутарку. Таксама жанчынам рэкамендавалі схаваць шарыкі.

Потым міліцыянеры вырашылі спраўдзіць дадзеныя журналістаў: імёны, даты і месца нараджэння. Гэтыя дадзеныя запісалі ў сшытак, пасля іх па тэлефоне дыктаваў адзін з міліцыянераў.

– Зараз будзем вырашаць, што з вамі рабіць.

Па словах міліцыянера, які знаходзіўся з нашымі карэспандэнтамі, гэта робяць таму, што ў іншых гарадах сілавікі затрымліваюць журналістаў. Нашы карэспандэнты спрабавалі даведацца, ці затрымаюць іх. На што аднназначнага адказу не атрымалі. Міліцыянер паведаміў, што журналісты павінны знаходзіцца ў 50 метрах ад пратэстнай акцыі на падставе нейкага загаду, пра падрабязнасці якога не расказаў.

Праз 10-15 хвілін нашых журналістаў паставілі на фоне пустой пляцоўкі ў парку, знялі на відэакамеру і на мабільны тэлефон, а потым адпусцілі.

У парку працягвалі шпацыраваць людзі сярод міліцыянераў.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Жодзішках затрымалі восем чалавек

**СМАРГОНЬ**

1 лістапада ў Жодзішках затрымалі смаргонскіх актывістаў, якія ішлі да дома старшыні Смаргонскага райвыканкама **Генадзя Харужыка.** Праваабаронца **Алесь Дзергачоў** расказаў, што цяпер з затрыманымі:

– Затрымана было восем чалавек. Але ў выкладзеным у інтэрнэце відэа ўсе непазнавальныя. Падазраюцца актывісты са Смаргоні па артыкуле 23.34 – несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. На 2 лістапада пад вартай заставаліся **Пётр Аскерка**, **Зміцер Грыневіч** і **Сяргей Трай**. Відавочна, на іх складзеныя пратаколы і яны застануцца там да суда. Астатнія вызваленыя. Але аднаму, **Уладзіміру Казлоўскаму**, уручылі павестку аб яўцы ў РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Загінулых за волю і незалежнасць ушанавалі пад наглядам міліцыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**1 лістапада ў сталіцы зладзілі жалобнае шэсце ў Курапаты, а ў Маладзечне некалькі чалавек сабраліся ў гарадскім парку ля помніка «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі».**

Маладзечанцы паставілі ля помніка лампадкі, павесілі белчырвона-белыя стужкі, прачыталі малітвы на беларускай мове. За малітвай назіраў міліцэйскі патруль з двух супрацоўнікаў.

Нагадаем, што гісторыя помніка пачалася ад 27 сакавіка 1993 года. Тады на Цэнтральнай плошчы Маладзечна ў гонар 75-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі ўрачыста адкрылі першы ў краіне помнік беларусам, якія ахвяравалі сабой дзеля волі і незалежнасці Бацькаўшчыны.

**Вялікі светла-шэры гранітны камень прывезлі з гулагскай каменаломні Беламорканала.**

У адкрыцці мемарыяла ўдзельнічаў старшыня Маладзечанскага гарвыканкама дэпутат Вярхоўнага Савета **Генадзь Карпенка**.

На Цэнтральнай плошчы і пешаходнай вуліцы 1 лістапада людзей было няшмат.



Каля помніка «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі».

Каля 10-15 чалавек шпацыравалі па цэнтры горада. Некаторыя з іх трымалі чырвоныя і белыя паветраныя шары. Тут жа хадзілі міліцэйскія патрулі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Самаробны трактар. Т. (8-044) 4703638.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль у любым стане. Тэрмінова. Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Бітую іншамарку, забяру сам, грошы адразу. Т. (8-029) 9085343.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### МЯНЯЮ

• Дом на вул. Стаханаўскай, 96 на 1-пакаёвую кватэру ў горадзе Вілейка альбо прадам. Т. (8-029) 8729001.

### ЗДАМ

• Здам у арэнду (магчымы наступны продаж) памяшканне агульнай плошчай 370 кв.м для ажыццяўлення рознічнага гандлю прадуктамі харчавання. Цэнтральная каналізацыя, эл. магутнасць 50 кВт, адрамантаванае. Г. Маладзечна, вул. Святаянская, 75. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. А1 (8-029) 6278076.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*



• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт, устаноўка, наладка газавага абсталявання 4-га пакалення на ваш аўтамабіль. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**11.11.2020 года с 10.00 до 12.00**
начальник Молодечненского филиала РУП «Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру»
**Владимир Васильевич БОРИСЕНКО**
проводит «прямую линию» по тел: (8-0176) **58-07-25**
УНП 600199462

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

• Піяніна. Нядорага. Т. (8-029) 6086204*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараны і авечкі жывой вагой, 5 рублёў за 1 кг. Віталій. Т. (8-029) 6769359.*

• Парасяты в'етнамская 2,5-месячныя, ядуць усё, прышчэпленыя па ўзросце, кастраваныя. Хлопчыкі і дзяўчынкі. Магчымая дастаўка ў Смаргонскі, Ашмянскі, Вілейскі, Маладзечанскі раёны. Т. (8-044) 4812864, (8-029) 9380010, (8-029) 6337353.

• Распродаж парасят кармалаў ад 40 рублёў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

• Каза з козачкай. Валожынскі раён. Т. (8-029) 3597375.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ІНШАЕ

• Адукацыйны цэнтр «Волшебное прикосновение» запрашае на вучэбныя курсы па напрамках: масажыст, бравіст, майстар па дэпіляцыі, касметык, майстар пазногцевага сэрвісу. ІП Бухнов А.Г. УНП 391435137 Т. (8-029) 7178246, (8-025) 5480842.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленая сумка на шлейцы зялёнага колеру. Унутры былі дакументы і кашалёк. Т. А1 (8-044) 5585533.

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т. (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*

• Шукаю работу па рамонце драўляных дамоў, замена ніжніх вянцоў, рамонт фундаментаў, дахаў, аддзелка і ўцяпленне фасада, сайдынг, блокхаўс, імітацыя бруса. Т. МТС (8-029) 8745410.*



Фота yandex.by

Тавары, якія не адпавядаюць стандартам, знайшлі ў будаўнічай краме.

# Дзяржнагляд забараніў увозіць у Беларусь помпу і шліфмашынку

## Да Сусветнага дня якасці

**Сёлета Сусветны дзень якасці будзе адзначацца 12 лістапада.**

Якасць і бяспека тавараў, што рэалізуюцца у Беларусі, – адно з пытанняў, якія стаяць на асаблівым кантролі ў дзяржавы.

Інспекцыя Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску пастаянна працуе над выяўленнем тавараў, якія не адпавядаюць устаноўленым заканадаўствам патрабаванням якасці і бяспекі.

Падчас кантрольна-наглядавых мерапрыемстваў сёлета ў ліпені-жніўні на рэалізацыі ў адной з будаўнічых крам, размешчаных на тэрыторыі абслугоўвання інспекцыі, спецыялісты заўважылі прадукцыю, якая не адпавядае патрабаванням тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза ТР МС 004/2011 «Аб бяспецы нізкавольтнага абсталявання», ТР МС 020/2011 «Электрамагнітная сумяшчальнасць тэхнічных сродкаў». Вібрацыйная плоскашліфавальная машынка гандлёвай маркі OASIS мадэль GV-25 не адпавядала стандартам па стварэнні электрамагнітных перашкод, па патрабаваннях да маркіроўкі і інструкцыі – па адсутнасці абазначэння канструкцыі класа 2, а таксама неабходных звестак у інструкцыі па бяспецы.

Вібрацыйная помпа гандлёвай маркі making Oasis everywhere мадэль VN 0.42 / 60-10 мела праблемы па бяспецы і маркіроўцы. Помпа была са шнуром у полівінілхларыдным абалонцы. А гэта недапушчальна.

Такія асаблівасці тэхнікі могуць прывесці да таго, што вырабы хутка сапсуюцца. А празмернае награванне іх частак можа стаць прычынай пажару.

Аддзел дзяржаўнага нагляду ў Маладзечне забараніў увоз і рэалізацыю на рынку Беларусі гэтай прадукцыі.

Усе забароны і іншую карысную інфармацыю можна паглядзець на сайце Дзяржстандарту ў раздзеле Рэестры: інфармацыйны рэсурс «Небяспечная прадукцыя» па адрасе: danger.gspk.by.

Паважаныя спажыўцы, набывайце тавары бяспечныя і якасныя.

**Дзмітры БАНЦАРЭВІЧ,**
**галоўны дзяржаўны інспектар аддзела дзяржнагляду (Маладзечна) Інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску.**

# Дайджэст: Новы міністр МУС і закрытыя межы. Што адбывалася ў Беларусі за апошні тыдзень

**Прапануем агляд значных падзей, якія адбываліся ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень.**

### Юрыя Караева адправілі ў адстаўку

Ад 29 кастрычніка ў Беларусі – новы міністр унутраных спраў. Юры Караеў цяпер на пасадзе памочніка Лукашэнкі па Гродзенскай вобласці. Міністрам унутраных спраў ён быў ад чэрвеня 2019 года, замяніўшы на пасадзе **Ігара Шуневіча**. Новым міністрам унутраных спраў прызначаны **Іван Кубракоў**. Раней ён быў начальнікам ГУУС Мінгарвыканкама.

### Беларусь закрыла межы для замежнікаў ад 1 лістапада

Адпаведную пастанову выдаў Савет Міністраў. Прычына – кавід. Нагадаем, што падчас першай хвалі кавіду Беларусь межы не закрывала, а кіраўніцтва краіны адмаўляла небяспечнасць сітуацыі. Ад 1 лістапада Беларусь часова прыпыніла перасячэнне мяжы на ўезд для замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў аўтадарожных і чыгуначных пунктах пропуску. Абмежаванні не распаўсюджваюцца на замежных грамадзян, якія едуць па дыпламатычных і службовых пашпартах, кіраўнікоў і членаў афіцыйных дэлегацый, кіроўцаў міжнародніқаў і некаторыя іншыя катэгорыі.

### У Курапатах правялі жалобны мітынг

1 лістапада праходзіў марш у Курапаты, дзе ў 1930-я расстрэльвалі людзей. Традыцыйна перад Дзядамі ў Курапатах адбываецца акцыя памяці. Сёлета марш суправаджаўся затрыманнямі. Трапіць у Курапаты змаглі не многія пратэстоўцы. Нягледзячы на светлашумавыя гранаты і страляніну, тысячы чалавек дайшлі да Курапатаў.

**Паводле «Нашай Нівы» і Дзяржпагранкамітэта.**

# У Мінску перапахавалі Змітрака Бядулю

## У пачатку мінулага стагоддзя пісьменнік вучыўся ў Ілы і Даўгінаве

ВІЛЕЙКА

**У аўторак, 3 лістапада, на Усходніх могілках у Мінску перапахавалі беларускага пісьменніка Змітрака Бядулю (Самуіла Плаўніка). Развітанне адбылося ў музеі «Беларуская хатка». Пісьменнік быў звязаны з нашым рэгіёнам.**



Падчас развітання ў музеі «Беларуская хатка», дзе Змітрок Бядуля наймаў пакой у пачатку 20 стагоддзя.

У канцы 19 – пачатку 20 стагоддзя ён вучыўся на рабіна – яўрэйскага святара – у Даўгінаве і Ілы. У ільянскі ешыбот – школу рабінаў – перайшоў па жаданні бацькі з даўгінаўскага ешыбота. У Ілы вучыўся ад 1899 да 1901 года.

Ад Ілы да роднай вёскі Пасадзец, што на Лагойшчыне, было бліжэй і зручней дабірацца, чым з Даўгінава. У Ілы разам з іншымі прыезджымі навучэнцамі Самуіл харчаваўся ў сем'ях мясцовых яўрэяў. Сваё жыццё ў Ілы і вучобу ў мясцовым ешыбоце Бядуля пасля згадае ў творы «У дрымучых лясах».

У 2016 годзе ў Ільянскай сярэдняй школе імя Адама Грымаца ўрачыста адкрылі памятны камень з мемарыяльнай дошкай, які паведамляе пра сувязь класіка з Ільёй.

### Памёр у 1941 па дарозе ў эвакуацыю

Змітрок Бядуля памёр, калі ехаў з сям'ёй у эвакуацыю, 3 лістапада 1941 года. Сведкі прыгадвалі, што на станцыі ў некалькіх кіламетрах ад горада Уральска, у Казахстане, пасажыры выйшлі, каб абмяняць рэчы на ежу. Абмен яшчэ не скончыўся, а цягнік даў гудок. Бядуля спалохаўся, што цягнік паедзе без яго, і пабег. На цягнік паспеў. У ім ён узяў папяросу, зацягнуўся некалькі разоў і яму стала дрэнна. Пахавалі класіка ва Уральску.

Сваякі Бядулі шэсць разоў хацелі перапахаваць яго парэшткі на радзіме. Атрымалася толькі цяпер. У лютым парэшткі творцы эксгумавалі, каб перапахаваць на радзіме.

3 лістапада, у дзень смерці класіка, труну з яго парэшткамі паставілі ў экспазіцыйнай зале ў музеі – хаце на вуліцы Рабкораўскай. У гэтай хаце, што належала настаўніку **Саву Рэдзьку**, на працягу 1916-1919 гадоў кватаравалі **Змітрок Бядуля**, **Максім Багдановіч**, **Зоська Верас**, **Язэп Лёсік**. Частымі гасцямі былі **Аркадзь Смоліч** і **Уладзіслаў Галубок**. Сёння вакол дома стаяць імянныя лаўкі, прысвечаныя кожнаму, хто жыў тут або прыходзіў у госці. Сярод іх – і лаўка Змітрака Бядулі.

### Яфім Плаўнік: Хаваю бацьку другі раз

Ініцыятыва перапахавання належыць сыну **Змітрака Бядулі – Яфіму Самуілавічу**. Ён жыве ў Мінску і ўжо не можа лятаць на бацькаву магілу.

– Сёння ў мяне супярэчлівыя пачуцці, – падзяліўся з карэспандэнтам Яфім Самуілавіч. – З аднаго боку, радасна, што прах бацькі цяпер на радзіме. З іншага, сумна, бо хаваю яго другі раз. Калі бацьку хавалі ў першы раз, мне было сем год.

Яфім Самуілавіч адзначыў, што ведае пра перыяд жыцця Бядулі, звязаны з Вілейшчынай. Аднак успамінаў ад яго пра Ілью і Даўгінава не чуў. На пытанне, якія з твораў бацькі падабаюцца найбольш, адказаў, што вершы і апавесць «Салавей».

### Зміцер Бартосік: З творчасцю Бядулі пазнаёміўся ў Расіі

На цырымоніі пахавання прысутнічалі пісьменнікі, журналісты, прыхільнікі творчасці паэта.

– Сёння я тут, бо Змітрок Бядуля ў свой час аказаў вялікі ўплыў на мяне. Некалькімі абзацамі ён мог намаляваць Беларусь так, што яе нельга не палюбіць. Гэта быў сапраўдны майстра і, як заўжды, недаацэнены, – расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» журналіст, пісьменнік і бард **Зміцер Бартосік**. – Першы раз з творчасцю Бядулі я пазнаёміўся ў Ніжнім Ноўгарадзе ў канцы 1970-х. У маёй бабулі было шмат розных кніг. На адной вокладцы я ўбачыў абсалютна незразумелае рускаму вуху імя і прозвішча – Змітрок Бядуля. Спытаўся ў мамы, што гэта за пісьменнік. Тая здзівілася: як гэта ты не ведаеш Змітрака Бядулю?

Пры гэтым Зміцер Бартосік – рускі па нацыянальнасці. І беларускіх каранёў не мае. Кніга, знойдзеная ў бабуліным доме, – гэта пераклады твораў Бядулі для дзяцей на рускую мову выдавецтва «Детгиз», выдадзеная ў канцы 1940-х у друкарні імя Сталіна.



Змітрок Бядуля.

### Беларускага класіка пахавалі пад крыжам з рускамоўным надпісам

Пасля развітання труну з прахам Змітрака Бядулі пад песню «Магутны божа» вынеслі з музея і перапахавалі на Усходніх могілках.

Многія адзначылі, што крыж беларускаму пісьменніку быў чамусьці падпісаны на рускай мове.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік) нарадзіўся 23 красавіка 1886 года ў вёсцы Пасадзец, што цяпер у Лагойскім раёне. Памёр 3 лістапада 1941 года. Беларускі паэт, празаік, мовазнаўца. Жонка – Марыя Ісакаўна Плаўнік (дзявочае прозвішча Шыркес; 1900—1984), дзеці Зоя (1929—1975) і Яфім (1934). Будучы пісьменнік нарадзіўся ў небагатай яўрэйскай сям'і. Бацька, Хаім (Яфім), быў арандатарам, а зімой працаваў на лесанарыхтоўках. Часам займаўся дробным гандлем, іграў на скрыпцы. Маці, Хана Плаўнік, працавала швачкай-капturніцай. Дзед, адзіны ў мястэчку каваль і меднік, меў уласную бібліятэку. Самуіл ведаў іўрыт – старажытнаяўрэйскую мову, ідыш, нямецкую, беларускую, рускую і крыху польскую мовы. Нейкі час працаваў хатнім настаўнікам іўрыта. З дзяцінства любіў кнігі. Як і браты, іграў на скрыпцы. У розныя часы жыў і працаваў у Мінску і Вільні. Пісаў творы на ідыш, на рускай і беларускай мовах. Аўтар кніг паэзіі і прозы, шмат пісаў для дзяцей.

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

## Шон Конэры

**31 кастрычніка на 91-м годзе жыцця памёр акцёр Шон Конэры, першы выканаўца ролі Джэймса Бонда.**

### Кар’ера

Конэры нарадзіўся ў 1930 годзе ў Эдынбургу. Адным з першых фільмаў, дзе ён выканаў галоўную ролю, стала ваенная драма «Іншы час, іншае месца», якая выйшла ў 1958 годзе.

У 1962 годзе Конэры выканаў ролю Джэймса Бонда ў «Доктара Ноў». Пазней ён сыграў «Агента 007» яшчэ ў некалькіх фільмах, у тым ліку ў «Голдфінгер», «З Расіі з любоўю» і «Жывеш толькі двойчы». Акцёра часта называюць лепшым выканаўцам гэтай ролі.

За сваю кар’еру Конэры папрацаваў са шматлікімі культавымі рэжысёрамі. Ён здымаўся ў такіх фільмах, як «Індыяна Джонс і апошні крыжовы паход» **Стывена Спілберга**, «Узгорак» і «Забойства ва Усходнім экспрэсе» **Сідні Люмета**, «Марна» **Альфрэда Хічкока**, «Чалавек, які хацеў быць каралём» **Джона Х’юстана** і «Недатыкальныя» **Браяна дэ Пальмы**. У апошняй карціне акцёр сыграў паліцэйскага Джыма Мэлоўна, і гэта роля прынесла яму «Оскар».

Конэры завяршыў кар’еру ў 2003 годзе. Сярод апошніх карцін з яго ўдзелам – «Ліга знакамітых джэнтльменаў» па коміксах **Алана Мура** і баявік **Майкла Бэя** «Скала».

### Асабістае жыццё

У 16 гадоў Конэры пайшоў у Каралеўскі флот. У гэты час зрабіў дзве татуіроўкі: адну пра маму з татам, а другую пра Шатландыю. Вучыўся ў ваенна-марской артылерыйскай школе, пазней служыў маракам на авіяносцы. У 19 год звольнены з ваенна-марскога флоту Вялікабрытаніі.

Пасля ваеннай службы працаваў кіроўцам грузавіка, выратавальнікам, рознарабочым, натуршчыкам у каледжы мастацтваў, паліроўшчыкам трун.

Яшчэ на флоце пачаў займацца бодзібілдынгам. Хобі Конэры – гольф. Акцёр быў уладальнікам велізарнага поля для гэтай гульні на поўдні Францыі.

А яшчэ любіў футбол, у маладосці гуляў за «Бонірыг Роўз». Яму нават прапаноўвалі гуляць за «Манчэстар Юнайтэд». Наваt хацеў пагадзіцца:

– Але я зразумеў, што першакласны футбаліст можа гуляць да 30 гадоў, а мне тады ўжо было 23 гады. Я вырашыў стаць акцёрам, і мне гэта ўдалося. Гэта быў адзін з самых разумных хадоў у маім жыцці.

Конэры – фанат шатландскага футбольнага клуба «Рэйнджэрс».

Ён быў жанаты на аўстралійскай актрысе **Дайян Сілента**, у іх ёсць сын **Джэйсан Конэры**. Другой жонкай Шона Конэры стала **Мішэлін Рокбрун** – французская мастачка родам з Марока.


Фота dailymail.co.uk.

Рыцарскі тытул акцёр атрымаў у ліпені 2000 года.

Арганізацыя ветэранаў вайны Вялікабрытаніі ў 2003 годзе прыняла ў свае шэрагі Шона Конэры ў якасці ганаровага члена за нумарам 1127.

25 жніўня 2008 года ў свет выйшла кніга Шона Конэры Being A Scot (Быць шатландцам). Гэта не зусім аўтабіяграфія: у сваёй кнізе ён пісаў пра Шатландыю, яе культуру, гісторыю, а таксама пра сваю сям’ю і пра сябе. Шон Конэры з’яўляўся актыўным членам Шатландскай нацыянальнай партыі і з’яўляўся прыхільнікам незалежнасці краіны ад Англіі. У сакавіку 2014 года заявіў, што вернецца ў родную краіну, толькі калі яна здабудзе незалежнасць.

Памёр у сне 31 кастрычніка 2020 года на 91-м годзе жыцця ў сваім доме ў Насаў, Багамскія Астравы.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 9 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 18.15, 21.05, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Сказка о рыбаке и рыбке».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.50** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**9.15** Стрим-спектакль «Сказки из сундука».
**10.00** Мультфильмы «Скуби Ду «.
**11.30** «Смотрим всей семьей»: Мелодрама «Хористы».
**13.10** Т/с **«ПРИЗРАКИ ДОМА НА ХОЛМЕ».**
**14.20** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**16.00** «Мульт-парад». «Добрыня Никитич и Горыныч змей».
**17.15** Т/с **«РИСКОВАННЫЙ РОМАН».**
**18.25** Т/с **«ВДОВА».**
**19.15** «Суперлото».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗАГАДОЧНОЕ УБИЙСТВО».**
**22.45** Х/ф **«ЗАПАДНЯ».**
**0.40** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ».**

### ВТОРНИК, 10 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 18.55, 21.10, 1.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Сказка о попе и его работнике Балде».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**9.00, 19.50** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**9.55** Х/ф **«КОШКИН ДОМ».**
**10.35, 16.00** «Мульт-парад».
**11.45** Х/ф **«ДВОЙНОЙ ФОРСАЖ».**
**13.30** Х/ф **«ЗАГАДОЧНОЕ УБИЙСТВО».**
**15.00, 19.00** Т/с **«ВДОВА».**
**16.10** «Чем опасен COVID-19 при сахарном диабете».
**17.15** Т/с **«БИЛЕТ В БУДУЩЕЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«К ЗВЕЗДАМ».**
**23.20** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЕ ВО ЛЬДАХ».**
**1.00** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ».**

### СРЕДА, 11 НОЯБРЯ

**7.00, 15.20, 18.35, 21.10, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Сказка о мертвой царевне и семи богатырях».
**7.30, 15.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 19.50** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**9.15** «Удачные советы» СБ ТВ.
**9.20** Мультфильмы «Бэтмен».
**10.45, 16.50** Т/с **«БИЛЕТ В БУДУЩЕЕ».**
**12.25** Х/ф **«К ЗВЕЗДАМ».**
**14.30, 18.40** Т/с **«ВДОВА».**
**15.35** «Мульт-парад». «Золушка».
**19.30** «Готовь как шеф».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ТАЙНА ЦАРСКОЙ СЕМЬИ».**
**23.05** Х/ф **«В МЕТРЕ ДРУГ ОТ ДРУГА».**
**0.55** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ».**

### ЧЕТВЕРГ, 12 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 21.10, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Лягушка-путешественница».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20** Т/с **«МАКМАФИЯ».**
**9.30** «Обычные советы» СБ ТВ.
**9.50** Мультильм «Добрыня Никитич и Змей Горыныч».
**11.00, 16.30** Т/с **«БИЛЕТ В БУДУЩЕЕ».**
**12.40** Х/ф **«ПРИЗРАК ОПЕРЫ».**
**15.00, 18.30** Т/с **«ВДОВА».**
**16.00** «Мульт-парад». «В некотором царстве».
**18.15** «Фешн is my профешн».
**19.15** «Погода».
**19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«КУКЛОВОДЫ».**
**0.15** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ».**

### ПЯТНИЦА, 13 НОЯБРЯ

**7.00, 16.00, 21.10, 2.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Бобик в гостях у Барбоса».
**7.30, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.15, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.45** Стрим-спектакль «Непослушная спичка».
**10.25, 16.40** Т/с **«БИЛЕТ В БУДУЩЕЕ».**
**12.10** Х/ф **«КУКЛОВОДЫ».**
**15.10, 18.25** Т/с **«ВДОВА».**
**16.10** «Мульт-парад». «Дюймовочка».
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВОЙНА БЕСКОНЕЧНОСТИ».**
**23.45** Х/ф **«СПЕКТР 007».**

### СУББОТА, 14 НОЯБРЯ

**7.00, 14.30, 19.00, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.50** «Приколы 13-й школы».
**8.55** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА».**
**10.15** Х/ф **«НЕПОКОРНАЯ».**
**14.35** «Смотрим всей семьей»: «Пиноккио».
**16.40** Х/ф **«ВОСТОЧНЫЙ ВЕТЕР-3».**
**18.30** «Бьюти День».
**19.05** Х/ф **«ДЬЯВОЛ НОСИТ PRADA».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«ТРОЙНАЯ ГРАНИЦА».**
**23.30** Х/ф **«ФОРМА ВОДЫ».**
**1.25** «Погода».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 15 НОЯБРЯ

**7.00, 13.05, 16.55, 20.55, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.15** «Приколы 13-й школы».
**8.20** Х/ф **«ПРИХОДИТЕ ЗАВТРА».**
**10.00** «Бьюти День».
**10.30** Х/ф **«НЕПОКОРНАЯ».**
**13.10** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**15.00** Фэнтези «Принц Персии».
**17.00** «Детектив на экране»: «Большая четверка».
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** «Погода».
**19.20** Х/ф **«ОТМЕЛЬ».**
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Х/ф **«ОПАСНЫЕ СЕКРЕТЫ».**
**23.00** Х/ф **«ФРАНЦУЗСКИЙ ПОЦЕЛУЙ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 9 НОЯБРЯ

**6.30** Х/ф **«ВПЕРЕД».**
**8.10** Х/ф **«ОДИН ВДОХ».**
**9.50** Х/ф **«РАССЕЯННЫЙ».**
**11.15** Х/ф **«СУПЕРМОЗГ».**
**13.15** Х/ф **«ЧЕРНЫЙ РЫЦАРЬ».**
**14.55** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА».**
**16.55** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**19.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.30** Майстэрства і фантазія.
**20.00** Новости: время местное.
**20.15** Х/ф **«МОЙ ШПИОН».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 10 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.25** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**10.05** Х/ф **«12 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**12.10** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА».**
**14.00** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**
**16.00** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**17.30** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**19.30** Реликвия: сохраняя ценности.
**20.15** Х/ф **«ХОДЯТ СЛУХИ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 11 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15, 21.10** Свет души.
**8.15** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**9.55** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**11.45** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**13.15** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**15.10** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ».**
**17.00** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 12 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Мультфильмы.
**9.50** Х/ф **«ХОЛОП».**
**11.35** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**13.30** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ».**
**15.15** Х/ф **«СУПРУГИ МОРГАН В БЕГАХ».**
**17.00** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**18.25** Новости БЖД.
**19.15** Рядом со звездами.
**20.15** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 13 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Реликвия: сохраненные ценности.
**8.15** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ ГЕКТОРА В ПОИСКАХ СЧАСТЬЯ».**
**10.15** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**12.00** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**
**13.50** Х/ф **«СЕМЬЯ ПО-БЫСТРОМУ».**
**15.50** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ».**
**17.20** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**22.15** Мажорный лад.

### СУББОТА, 14 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**10.15** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**
**12.20** Х/ф **«КЛИК –С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**14.05** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**15.55** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ.».**
**17.15** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**19.15** Майстэрства и фантазія.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.10** Новости БЖД.
**22.15** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 15 НОЯБРЯ

**6.30** Мультфильмы «Тайная жизнь домашних животных 2».
**8.00** Мультфильмы «Скуби-ду».
**9.35** Мультфильмы «Семейка Аддамс».
**11.00** Мультфильмы «Волки и овцы: бееезумное превращение».
**12.25** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**14.05** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**15.40** Х/ф **«МОЕ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**17.15** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**19.00** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**21.00** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС».**

## Беларусь 1

**6.20** Х/ф **«СЕРДЦЕ СЛЕДОВАТЕЛЯ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.20** Родные люди.
**10.40** Зона Х. Итоги недели.
**11.15** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«ИЗМОРОЗЬ».**
**14.25** Маршрут построен.
**15.15** Т/с **«ВРЕМЕННО НЕДОСТУПЕН».**
**16.20** Один день.
**16.45, 19.10** Х/ф **«ДОЧЬ ЗА ОТЦА».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.05** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПЕГАСА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.55** Т/с **«СТИЧ!».**
**9.40, 19.30** Телебарометр.
**9.45** «До свидания». Реалити-шоу.
**10.40** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.
**11.35** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.
**12.30** Х/ф **«КОРОЛЕВА ИЗ КАТВЕ».**
**14.35** «Когда мы дома 2». Скетчком.
**15.05** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.50** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.45** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**20.05** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«НА ПРЕДЕЛЕ».**
**23.15** Х/ф **«ЧУМОВАЯ ПЯТНИЦА».**

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».
**7.55** «Гэты дзень».
**8.00** «Сказка о царе Салтане». Мультфільм.
**8.55** «Суседзі». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Яечня і дранік на ўсю патэльню.
**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50, 14.55, 18.10** Навіны культуры. Спецыяльны выпуск да 95-годдзя Беларускага радыё.
**12.15** «Радыёмарафон. Дзень радыё».
**12.30** «Радыёмарафон. Акадэмічны хор Белтэлерадыёкампаніі».
**13.00** «Два капітаны». Мастацкі фільм [СТ].
**14.40** «Архітэктура Беларусі» [СТ].
**15.15, 18.30** «Радыёмарафон Дзень радыё».
**15.35** «Радыёмарафон. Ансамбль народнай музыкі «Бяседа».
**16.35** «Вяселле ў Малінаўцы». Мастацкі фільм [СТ].
**18.50** «Радыёмарафон. Сімфанічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі».
**19.50** «Кадры жыцця». Народны артыст Беларусі Уладзімір Громаў.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Уцёсаў. Песня даўжынёю ў жыццё». Шматсерыйны мастацкі фільм, заключныя серыі.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.
**7.15** «Здоровье».
**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.15** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».
**9.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**10.05** ОНТ представляет: «Народный повар».
**11.20** «Видели видео?».
**12.20** Т/с **«КЛЮЧ К ЕГО СЕРДЦУ».**
**16.20** К 85-летию актрисы. «Пусть говорят». «Публиковать после смерти». Завещание Людмилы Гурченко».
**17.35** Большой праздничный концерт.
**18.20** Большой праздничный концерт Продолжение.
**20.00** «Контуры».
**21.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**23.05** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.25** Премьера. «Иммунитет. Токсины».

## СТВ

**6.30, 0.35** «Странное дело».
**8.15** «Великие тайны».
**9.10** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** Документальный проект.
**11.45, 13.40, 16.40** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.05** Документальный спецпроект.
**23.00** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ЦИРК».**
**5.30, 3.25** Мультфильмы.
**6.15** Х/ф **«ДЕВУШКА С ГИТАРОЙ».**
**8.50** «Любимые актеры 2.0». Людмила Гурченко.
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15** Т/с **«ОТДЕЛ СССР».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**19.30, 1.00** Т/с **«СЕРДЦА ТРЕХ».**
**2.00** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

## НТВ-Беларусь

**5.55** «Астропрогноз».
**6.05** «Наукомания».
**6.40** «50 рецептов первого».
**7.15** «Кто в доме хозяин?».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.50** Беларусы.
**9.20** «Я хочу это увидеть!».
**10.20** «Первая передача».
**10.50** «Чудо техники».
**11.35** «Дачный ответ».
**12.35** Истории спасения.
**13.05** «НашПотребНадзор».
**14.00** Исторический детектив «Ростов».
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Звезды сошлись».
**21.25** Ты не поверишь!
**22.25** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Специальный репортаж».
**7.15** Х/ф **«НЕ СМЕЙ МНЕ ГОВОРИТЬ «ПРОЩАЙ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.15** Х/ф **«СЧАСТЛИВЫЙ ШАНС».**
**14.45** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».
**16.00** Х/ф **«НАЧНЁМ ВСЁ СНАЧАЛА».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.05** «В людях с Вадимом Щегловым».
**21.35** Х/ф **«ПРОЩАНИЕ СЛАВЯНКИ».**
**23.10** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.50** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.55** Давайте потанцуем. **9.05** Осень в Нью-Йорке. **10.55** Парк Юрского периода. **13.10** Парк Юрского периода 2: Затерянный мир. **15.30** Парк Юрского периода 3. **17.05** Хорошо быть тихоней. **19.00** Как отделаться от парня за 10 дней. **21.05** Доброе утро. **23.00, 5.00** Пышка. **1.00** Одержимость. **3.05** Счастливый случай.

### TV1000 ACTION

**7.30** Три девятки. **9.20** Мумия. **11.25** Мумия возвращается. **13.40** Царь Скорпионов. **15.10** Мумия: Гробница Императора Драконов. **17.05** Континуум. **19.00** Монстро. **20.20** Кловерфилд, 10. **22.05, 5.10** Столкновение с бездной. **0.00** Ю-571. **2.00** Интернэшнл. **3.45** Время псов.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.15** Пассажирка. **9.00** Коллектор. **10.15** Урфин Джюс возвращается. **11.35** Джентльмены, удачи! **13.20** Ласковый май. **15.30** Гороскоп на удачу. **17.10** Zолушка. **19.00** Лёгок на помине. **20.30** Дублёр. **22.00** Одной левой. **23.30** Водитель для Веры. **1.30** Вурдалаки. **2.50** Контрибуция.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **8.30** «Новый день». **9.00** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА: В ПОИСКАХ СОКРОВИЩ». 11.15** Х/ф **«ЦАРЬ СКОРПИОНОВ: КНИГА ДУШ». 13.15** Х/ф **«СЕРДЦЕ ИЗ СТАЛИ». 15.30** Х/ф **«ВОКРУГ СВЕТА ЗА 80 ДНЕЙ». 18.00** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ АМАЗОНКИ». 20.00** Х/ф **«ПЕЩЕРА». 22.00** Х/ф **«ПИРАНЬИ». 23.45** Х/ф **«РАССВЕТ МЕРТВЕЦОВ». 1.45** Х/ф **«ТАЙНЫ БЕРМУДСКОГО ТРЕУГОЛЬНИКА».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ИЗМЕНА». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«НОЧНЫЕ ЛАСТОЧКИ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ТАТЬЯНИНА НОЧЬ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«Я –ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. КИЛЛЕР К ЮБИЛЕЮ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«НА ГЛУБИНЕ». 0.00, 1.00** Т/с **«НЕ ВМЕСТЕ». 2.00, 3.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ. СЧАСТЬЕ ВЗАЙМЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.00** Х/ф **«ПОСЛЕСВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ». 1.45** Х/ф **«2+1». 4.20** Х/ф **«БЕЗУМНЫЕ СОСЕДИ». 6.00** Х/ф **«НЕСМОТРЯ НИ НА ЧТО». 8.10** Х/ф **«УКРАДИ МОЮ ЖЕНУ». 10.00** Х/ф **«ЭДДИ». 11.55** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ ТЕСС». 13.50** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ». 15.50** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С УВЕДОМЛЕНИЕМ». 17.45** Х/ф **«ЛИЦЕНЗИЯ НА БРАК». 19.30** Х/ф **«ДЮПЛЕКС». 21.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ДРУГИЕ ЛЕКАРСТВА». 23.15** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК В ЕВРОПЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.25** Т/с **«БАРС И ЛЯЛЬКА». 2.20, 3.45, 4.50, 5.50, 6.55, 8.00** Т/с **«ИСТОКИ». 9.10, 10.10, 11.15, 12.15, 13.20** Т/с **«КРИК СОВЫ». 14.25, 15.25, 16.30, 17.35, 18.35, 19.40, 20.45, 21.45** Т/с **«СМЕРТЬ В РАЮ». 22.50, 23.45** Т/с **«ЯЛТА-45».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.45** «ЛОВИ МОМЕНТ». **9.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55** Х/ф **«АИСТЫ». 14.40** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ 3: МОРЕ ЗОВЁТ». 16.30** Х/ф **«НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ВЫСОКОЕ НАПРЯЖЕНИЕ». 19.15** Х/ф **«МАКС СТИЛ». 21.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.05** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.05** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **1.30** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.25** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.55** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Спорт-микс. **7.10, 16.20** Плавание. Лига ISL. **9.20** Футбол. Лига Наций. Германия – Украина. **11.20** Пит-стоп. **11.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. БЧ (Гомель) –Борисов-900. **13.50** Хоккей. КХЛ. Барыс (Нур-Султан) –Динамо-Минск. **17.55** Спорт-центр. **19.50** Футбол. Лига Наций. Беларусь –Литва. В перерыве Спорт-центр. **21.50** Футбол. Лига Наций. Дневник игрового дня. **22.35** Футбол. Лига Наций. Бельгия –Англия. В перерыве Спорт-центр. **0.35** Итоги недели.

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Спорт-микс. **7.10, 16.20** Плавание. Лига ISL. **9.20** Футбол. Лига Наций. Германия – Украина. **11.20** Пит-стоп. **11.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. БЧ (Гомель) –Борисов-900. **13.50** Хоккей. КХЛ. Барыс (Нур-Султан) –Динамо-Минск. **17.55** Спорт-центр. **19.50** Футбол. Лига Наций. Беларусь –Литва. В перерыве Спорт-центр. **21.50** Футбол. Лига Наций. Дневник игрового дня. **22.35** Футбол. Лига Наций. Бельгия –Англия. В перерыве Спорт-центр. **0.35** Итоги недели.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 9.50** Все включено. **6.15, 17.10** Металлоломщики. **7.00, 18.00** Автовинтаж. **7.30, 8.05** Самообслуживание. **7.45, 10.10, 12.55, 16.10, 18.35, 23.15, 1.20, 3.50** Итоговые новости. **8.25** Это Родина твоя. **9.20, 10.45** Возвращение легенды. **10.30** Вторичка. **11.15, 19.25, 22.25, 3.05** На «Буханке» вокруг света. **11.45, 22.55, 3.35** Дома на колесах. **12.05, 20.15, 23.35, 4.05** Стальные парни. **13.15, 18.50, 0.20** Испытание на прочность. **14.15, 15.05, 1.35** Тест на «Драйве». **14.55** Наезд! **15.20** Эконом-тест. **15.45, 16.25** Гаражная команда. **16.50, 22.05** Авто: вторые руки. **20.00** Автолайф. **21.00, 5.00** Поездка выходного дня. **21.35, 5.30** Норильск –Диксон. Есть рекорд! **2.35** Сити-тестер. **4.50** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 7.10, 8.05** Речные чудовища. **8.55** Рыбалка со звездами. **9.45, 0.35** Невероятная рыбалка. **10.35, 11.00, 22.10, 22.35** Демонтаж: Новая Зеландия. **11.25, 11.50, 21.15, 21.40** Австралийские ловцы быков. **12.15, 20.30** Австралийские золотоискатели. **13.05, 14.00, 14.55, 15.50, 16.40, 17.35, 18.30, 19.35** Австралийское мега-метро. **23.00, 23.45** Ржавые тачки на прокачку. **1.25, 2.10, 3.00** Дикая Монтана. **3.45** Лесные люди. **4.30** Адские грузовики. **5.15** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.15, 5.20** Невероятные изобретения. **6.40, 7.25, 8.10, 3.10, 3.50** Музейные тайны. **8.55** Запретная история. **9.45, 12.20, 13.05, 18.20** Расшифровка тайн. **10.30, 11.25** Галапагосы. **13.50, 19.05** Последний персидский шах. **14.45, 15.40, 16.40** Операция «Золотая лихорадка». **17.35** Величайшие мистификации в истории. **20.05** Золотое кораблекрушение. **21.00** Вена: империя, династия и мечта. **21.55** Разгадка тайны пирамид. **22.45** Оружейники: искусство войны. **23.35, 0.25** Карты убийства. **1.10** История христианства. **2.15** Тридцатилетняя война – Железный век. **4.35** Охота за сокровищами нацистов.

### NATURE

**6.00, 4.25** Уличный ветеринар. **6.25, 7.15** Коварные растения. **8.10, 9.10** Жилища животных: прирожденные инженеры. **10.15** Как собаки и кошки захватили мир. **11.10, 12.05** Дикая Канада II. **13.10, 14.05** Дикая Латинская Америка. **15.00, 21.00** Дикий штат Карнатака, Индия. **15.55** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **16.45** Дикий Токио. **17.40** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **18.30** Загадочная планета. **19.25, 20.10** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **21.55, 22.45** Выживание в дикой природе. **23.40** Невероятные встречи с животными. **0.25** Хищные питомцы. **1.15, 5.15** Мутации погоды. **2.00** Анатомия крупнейших животных. **2.50, 3.40** Ветеринар из Йоркшира. **4.50** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Сделать за один день. **6.25, 7.10** Авто-SOS. **8.05, 8.55** Суперкар со свалки. **9.50, 10.40** Короли рыбалки 1. **11.35, 12.25** Машины:Разобрать и продать. **13.15, 14.05** Настоящий суперкар. **14.55** Мегамосты. **15.50, 16.15** Катастрофа в реальном времени. **16.40, 17.30, 18.25** Секунды до катастрофы. **19.20, 20.10** Свидетели катастроф. **21.00** Возрождение Парадайса. **22.55** Создание Райского острова. **23.45, 0.45** Враждебная планета. **1.35** Инстинкт выживания. **2.00, 2.50, 5.15** Осушить океан: глубокое погружение. **3.35, 4.25** Национальные парки Америки.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 2.00** Охота и рыбалка в. **6.30, 10.35, 14.40, 18.30** Профессиональная рыболовная лига. **7.00, 11.05, 15.10, 19.00, 3.10** Мой мир –рыбалка. **7.25, 15.40, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **8.00, 12.05, 16.10, 20.00, 0.00, 4.05** Рыбалка 360. **8.30, 12.35, 16.40, 20.30, 0.30, 4.35** Давай зарубимся! **8.40, 12.50, 20.45, 0.45, 4.50** Популярная охота. **9.00, 13.05, 16.55, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.35, 13.40, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Мир рыболова. **11.35, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **14.10, 18.00** Экспедиции Андрея Старкова. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Рыболовная школа для взрослых. **22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **23.00** Рыбалка в России. **2.55** Охоты и охотники.

### УСАДЬБА

**6.00, 14.05, 18.00, 21.55, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.40, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 10.55, 14.55, 18.50, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 11.10, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.30, 20.25, 0.25, 4.40** Свечной заводик. **8.35, 12.45, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 13.05, 1.25** Домик в Америке. **10.05** Огород круглый год. **13.35** Сельские профессии. **15.10** Огород круглый год. **17.30, 21.25, 5.35** Моя крепость. **1.55** Квас.


Фота з архіва школы.

4 клас маладзечанскай сярэдняй школы №2 у чэрвені 1947 года.

# Было па 15-18 медалістаў кожны год

## Чым адметная сярэдняя школа №2, якая ў лістападзе святкуе 75-гадовы юбілей

**На фотаздымку 1947 года вучні маладзечанскай сярэдняй школы №2. Пазначаныя нават дата і час – 5 чэрвеня, шэсць гадзін вечара. Фота зробленае каля першага будынка школы – звычайнага драўлянага дома, што стаяў у колішнім прыватным сектары. Дзяўчынка ў першым радзе ў клятчатай сукенцы і белым берэціку – Дзіна Лешакова.**

МАЛАДЗЕЧНА

Праз некалькі год яна скончыць школу і застанецца ў ёй піянерважатай. А пасля атрымае вышэйшую адукацыю і працягне працаваць у роднай школе настаўніцай музыкі і кіраўніцай хораў. Дзяўчынку ўжо будуць ведаць як **Дзіну Анісімаўну Шапаваламу**. А створаныя ёй школьныя хоры з вучняў і настаўнікаў неаднойчы праслаўляць родную школу.

У гэтыя лістападаўскія дні 75-гадовага юбілею ў сярэдняй школе №2 згадваюць сваіх педагогаў і выпускнікоў, а таксама багатую гісторыю ўстановы.

### Як усё пачыналася

9 лістапада 1945 года ў пасляваенным Маладзечне пачала працаваць сярэдняя школа №2. Яна размяслілася ў двух драўляных дамах на сённяшняй вуліцы Вольнай. Адным з першых дырэктараў быў **Майсей Лазаравіч Раскін**.

Праз чатыры гады для другой школы ўзвялі новы будынак. Сёння ў ім месціцца цэнтр «Маладзік». У 1949 годзе будынак быў адным з самых вялікіх і прыгожых у горадзе – з вялікімі вокнамі, шырокімі калідорамі, люстрамі, зялёнымі парцьерамі. Для першых пасляваенных гадоў усё тут выглядала шыкоўна.

Праўда, адразу будынак абаграваўся печкамі. Дровы нарыхтоўвалі вучні разам з настаўнікамі. Печкі прыбралі ў канцы 1950 – пачатку 1960-х. Гэты працэс прыгадвала пасля **Дзіна Іосіфаўна Гурчанка**. Дзіна Іосіфаўна адпрацавала ў другой школе больш за сорак год. Прыйшла сюды пасля БДУ настаўніцай рускай мовы і літаратуры, была намеснікам дырэктара і дырэктарам. У працоўнай кніжцы Дзіны Іосіфаўны – адзін запіс, адзначаюць у школе. Настаўніца ўжо даўно ў адпачынку, але тэлефануе сваім калегам, распытвае пра жыццё школы, пра падрыхтоўку да юбілею.

### Праект новай школы прывезлі з Сібіры

Па словах **Ларысы Станіславаўны Тулупавай** – бібліятэкара і захавальніцы здымкаў і дакументаў з гісторыі школы, – доўгі час іх установа лічылася элітнай.

> Да 1960 года Маладзечна было абласным цэнтрам. У дамах на вуліцы Машэрава жылі тагачасныя абкамаўскія начальнікі. Іх дзеці вучыліся ў другой школе, а жонкі працавалі настаўніцамі.

Педагогаў у школу бралі вельмі моцных. І вынікі былі адпаведныя. Яшчэ да 1980-х гадоў школа штогод выпускала па 15-18 сярэбраных і залатых медалістаў.

У 1970-х у двухпавярховым будынку месца стала не хапаць. У класах было па сорак чалавек. Многіх дзяцей вымушаныя былі аддаваць у іншыя школы. Тады тагачасны дырэктар **Барыс Уладзіміравіч Вайцяхоўскі** параіў бацькам сваіх вучняў напісаць пісьмо ў абкам партыі з просьбай пра новы будынак школы. Ініцыятыву падтрымала намеснік Дзіна Іосіфаўна Гурчанка. Урэшце дазволілі выбіраць праект. За ім дырэктар ездзіў у Новасібірск. За новы будынак на 1176 месцаў узяліся ў 1974-м, а ў 1975-м яго ўжо здалі.

Да гісторыі школы тут ставяцца адказна. Да 50-годдзя адкрылі залу выпускнікоў. У ёй – фотаздымкі большасці выпускаў школы. Фота ўсіх знайсці не атрымалася. Але цяпер у школе ёсць традыцыя – кожны выпускны клас пакідае ў падарунак Зале выпускнікоў сваё фота. У альбомах і папках – дакументы, звесткі пра педагогаў і выпускнікоў. У розныя часы школу №2 заканчвалі спартсмен **Аляксей Кудзін**, доктар-псіхіятр **Аляксандр Бажко**, спявак **Юры Антонаў**, актрыса **Таццяна Жданава**.

### Дырэктар школы: 75 год – гэта тысячы выпускнікоў

На думку дырэктара школы **Уладзіміра Яўгенавіча Шпетнага**, 75 год – гэта нямала. Гэта тысячы выпускнікоў і іх бацькоў, адзначае дырэктар:

– Толькі за час майго кіравання, ад 1987 года, са школы выйшла каля дзвюх тысяч выпускнікоў сярэдняй школы і каля дзесяці тысяч – базавай.

Па словах дырэктара, сёння школа абнаўляецца. З'явіўся новы камп'ютарны клас, мульціборды. Але Уладзімір Яўгенавіч упэўнены: для школы важна не толькі абнаўленне тэхнікай, але і маладымі таленавітымі кадрамі.

Адзначае, што шматлікія дасягненні школы адбываюцца як дзякуючы сумеснай працы педагагічнага калектыву, так і абмену досведам, супрацоўніцтву з калегамі з іншых гімназій і школ Маладзечаншчыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● КАЛЯНДАР

**6 ЛІСТАПАДА**

**1940.** Друскенікі (Друскенінкай), Салэчнікі (Шальчынінкай) і тэрыторыі на ўсход ад Свянцянаў (Швянчоніс) перададзеныя з БССР у Літоўскую ССР.

**7 ЛІСТАПАДА**

**1917.** У Петраградзе стрэлам крэйсера «Аўрора» пачалася Кастрычніцкая рэвалюцыя.

**8 ЛІСТАПАДА**

**1883.** Нарадзіўся **Вацлаў Ластоўскі**, беларускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, літаратуразнаўца (пам. 23.01.1938).



**9 ЛІСТАПАДА**

**1941.** Нацысты расстралялі каля 1500 яўрэяў у мястэчку Мір.

**1963.** У Ашмянах нарадзіўся **Аляксандр Тамковіч**, беларускі журналіст і аўтар кніг.



**1989.** Пачаўся дэмантаж Берлінскай сцяны.

**10 ЛІСТАПАДА**

**1921.** У Смаргоні нарадзіўся беларускі харавы дырыжор і педагог **Віктар Роўда**, народны артыст СССР.



**11 ЛІСТАПАДА**

**1875.** Нарадзіўся **Альберт Паўловіч**, беларускі паэт-гумарыст, драматург, перакладчык і мастак. Найбольш значная фігура беларускай гумарыстыкі пачатку 20-га стагоддзя.

**1918.** Абвяшчэнне незалежнасці Польшчы.

**1918.** Скончылася Першая сусветная вайна.

**12 ЛІСТАПАДА**

**1915.** У Вільні адкрылася першая беларуская пачатковая школа.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Нітраты самі з каструлі не выскачаць!»

## Чаму важна правяраць пітную ваду і як гэта можа зрабіць кожны

**«Пракіпячу ваду – і ніякай заразы там не будзе», «дзяды і прадзеды ваду з гэтага калодзежа пілі і здаровыя былі, чаму ж я захварэю?» – такія разважанні можна пачуць ад вясковых жыхароў, калі запытаешся ў іх, ці не баяцца яны, што мясцовая вада забруджаная.**




Аднак даследаванні калодзежнай вады, якія ладзіць Цэнтр экалагічных рашэнняў (ЦЭР) па ўсёй Беларусі, паказалі, што ў большасці месцаў яна забруджаная нітратамі.

Сёлета да праверкі якасці вады актыўна далучыўся і наш рэгіён. Працу над гэтым пачало грамадскае аб'яднанне «Жывое партнёрства».

Разам з удзельнікамі праекта «Папярэджанне забруджання прыродных вадаёмаў» разбіраемся ў тым, што такое чыстая вада, і глядзім, як выглядае «водная» сітуацыя вачыма мясцовых жыхароў. Даследаванні праводзіліся пры фінансавай падтрымцы Амбасады Каралеўства Нідэрландаў.

### Не маюць смаку, паху і колеру, але шкодзяць арганізму

– Выбіраючы тэрыторыю для даследаванняў, мы абапіраліся на тое, што ў Вілейцы ўжо існуе інфармацыйны цэнтр па пытаннях якасці вады, – тлумачыць кіраўнік праекта **Ларыса Якавюк**. – Ён месціцца на базе СШ№3. Цэнтр ужо мае досвед працы, таму хацелася распаўсюдзіць яго на суседнія раёны.

Ахвотныя даследаваць ваду знайшліся ў Вілейскім, Валожынскім і Смаргонскім раёнах.

> Валанцёры праверылі ваду ў 36 калодзежах і 36 крыніцах.

Зрабіць гэта лёгка: спецыяльныя тэст-палоскі, якія валанцёры атрымалі ад арганізатараў, на пару секунд апускаюцца ў ваду, пасля дастаюцца і цягам хвіліны набіраюць колер. Чым больш насычаным атрымаўся колер, тым болей нітратаў у вадзе. Іх узровень можна вызначыць па колеравай шкале, якая прыкладаецца да тэст-палосак.

Вынікі даследаванняў валанцёры дасылалі арганізатарам і заносілі на інтэрактыўную карту, якую можна пабачыць на сайце **watercontrol.info.**

– Мы робім акцэнт менавіта на нітратах, бо іх немагчыма выявіць ні на вока, ні на смак, – кажа **Наталля Парэчына**, спецыяліст па ўстойлівым кіраванні воднымі рэсурсамі ЦЭР.

> – Пры гэтым яны небяспечныя для нашага арганізма і ў некаторых выпадках могуць прывесці нават да смерці.

Рэч ў тым, што нітраты парушаюць транспартную функцыю гемаглабіну ў крыві. У выніку ў арганізме пачынаецца недахоп кіслароду. Гэта можа выліцца ў такую хваробу, як метгемаглабанемія, а таксама пашкодзіць згушчальнасць крыві, работу печані і падстраўнікавай залозы.

Асабліва небяспечна гэта для дзяцей да трох гадоў – нават невялікай канцэнтрацыі нітратаў дастаткова, каб пашкодзіць маленькі арганізм.

– Шмат дзяцей з такімі праблемамі ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці, – прыводзіць прыклад Наталля Парэчына. – Гэты рэгіён вядомы сваімі агуркамі. А пры вырошчванні агуркоў выкарыстоўваюць шмат угнаенняў, якія трапляюць у ваду.

### Вада ў горадзе і ў вёсцы – дзе лепей?

У «Законе аб пітным водазабеспячэнні» гаворыцца, што кожны жыхар Беларусі мае права на чыстую і бяспечную ваду. Незалежна ад таго, жыве ён у горадзе ці вёсцы.

На практыцы ж гараджане п'юць чысцейшую ваду. Чаму так атрымліваецца? Бо ў гарадах ёсць цэнтралізаваная сістэма падачы вады. Ёсць абавязковы этап яе падрыхтоўкі да спажывання, яе якасць рэгулярна кантралюецца. Таму забруджанасць вады з-пад крана хутчэй выключэнне, чым правіла.

У вёсцы людзі бяруць ваду з калодзежаў і свідравін. Толькі невялікая частка калодзежаў – грамадскія. У іх якасць вады штомесяц правярае мясцовы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

Большасць з іх – прыватныя, бо людзям зручней набіраць ваду ў сваім двары, а не хадзіць па яе на іншы канец вёскі. Таму адказнасць за чысціню вады ляжыць на гаспадарах. Яны могуць здаць ваду на аналіз, але на платнай аснове.

Што тычыцца свідравін, то бурэнне прыватных каштуе нятанна. А свідравіны для грамадскага карыстання часта робяцца недалёка ад ферм – каб забяспечыць вадой жывёлу. Ферма – пастаянная крыніца гною, які праз глебу трапляе ў ваду. Таму якасць вады з такой свідравіны таксама сумнеўная.

### Як уратавацца ад нітратаў на кухні

Наталля Парэчына абвяргае міф пра тое, што пазбавіцца ад нітратаў у вадзе можна праз кіпячэнне.

– Мы часта чуем, што калі адварыць гародніну, то з яе выйдуць усе нітраты. І гэта сапраўды так, – кажа эксперт. – Нітраты, што ўтрымліваюцца ў лупіне ці храпцы, пяройдуць у ваду. Але ж з каструлі яны не выскачаць! Яны застануцца ў вадзе, бо не разбураюцца пад уздзеяннем тэмпературы.

Не дапамогуць у гэтай справе і фільтр-збанкі, папулярныя ў нашых дамах.

Ачысціць ваду ад нітратаў можа толькі фільтр са зваротным осмасам. Але, па-першае, каштуе ён дорага – больш за 400 рублёў. Па-другое, разам з нітратамі адфільтруюцца і ўсе мікраэлементы, якія патрэбныя арганізму. Такая вада стане практычна дыстыляванай і непрыдатнай для піцця.

> Пазбавіць ваду ад нітратаў важна, калі мы збіраемся ўжываць яе ў харчаванні, – каб гатаваць суп, кашу ці каву. А вось мыцца, мыць бялізну ці паліваць агарод можна і вадой з нітратамі.

– На вёсцы часта бывае так, што з двух суседніх калодзежаў адзін чысты, другі – з нітратамі, – кажа Наталля Парэчына. – Бо яны рознай глыбіні. Тады ёсць сэнс наладзіць добрыя стасункі з суседзямі. І калі ў вас вада брудная, то па ваду на харчаванне хадзіць да суседа.

### Чаму вада з жалезам лепей, чым вада з нітратамі

Нітраты ў глебе з'яўляюцца тады, калі ля калодзежа ёсць празмерна ўгноеныя агароды, ямы для гною, лазні, сцёкі з сельскагаспадарчых палёў або туалеты, яма якіх не ізаляваная.

У верхнім слоі глебы найбольшая канцэнтрацыя нітратаў. Таму калі калодзеж мае невялікую глыбіню і мае небяспечных «суседзяў», то нітраты патрапяць у ваду.

– Выйсце з такой сітуацыі – капаць больш глыбокі калодзеж, каля 30-50 метраў глыбінёй, – рэкамендуе эксперт. – Але трэба памятаць, што беларуская глеба мае пэўную асаблівасць – вялікую канцэнтрацыю двухвалентнага жалеза ў больш глыбокіх глебавых гарызонтах. Таму нітратаў у вадзе з глыбокага калодзежа вы не знойдзеце, але знойдзеце жалеза.

Эксперт раіць не хапацца ў роспачы за галаву, а паглядзець на справу практычна: ці такое страшнае жалеза ў вадзе?

Па-першае, яно відаць няўзброеным вокам: такая вада мае рудое адценне. Таксама вы адчуеце пах і прысмак

# выскачаць»

## кожны

іржы, калі пакаштуеце яе. Нітраты ж мы ніяк пабачыць не можам.

Па-другое, ад жалеза лёгка пазбавіцца. Можна ўвечары пакінуць ваду адстойвацца і на раніцу жалеза асядзе на дно. Можна карыстацца фільтр-збанкамі, якія спраўляюцца з жалезам.

Таму калі выбіраць паміж вадой з нітратамі і вадой з жалезам, то лепей для арганізма і зручней для штодзённага жыцця выбраць другі варыянт.

### Ці верыць тэст-палоскам?

Плюсы тэст-палосак відавочныя – простыя ў выкарыстанні, даюць хуткі вынік і не патрабуюць спецыялістаў. Чаму ж тады цэнтры гігіены і эпідэміялогіі ставяцца да іх адмоўна?

– Тэст-палоскі мы закупляем у Германіі, дзе метад даследавання з іх выкарыстаннем акрэдытаваны, – тлумачыць Наталля Парэчына. – У Беларусі ж ён не мае акрэдытацыі. Па яе ў Дзяржстандарт павінны звяртацца або пастаўшчык, або іншая юрыдычная ці фізічная асоба. Пакуль акрэдытацыі няма, дзяржаўныя цэнтры не могуць выкарыстоўваць тэст-палоскі і працаваць з іх вынікамі.

Для таго, каб даказаць эфектыўнасць тэст-палосак, спецыялісты праводзілі параўнальны аналіз на бытавым узроўні. Узялі 20 слоікаў з вадой, якую прывезлі з розных вёсак Лідскага раёна, і праверылі яе на нітраты пры дапамозе тэст-палосак. Пасля тыя ж слоікі адвезлі ў цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Вынік атрымалі ідэнтычны.

### Часам хапае рамонту калодзежа, каб вада стала чыстай

Адным з валанцёраў, якія правяралі ваду ў нашым рэгіёне, стала **Аўгіня Манцэвіч** з вёскі Лохаўшчына Валожынскага раёна. Жанчына праверыла 18 калодзежаў, і ў палове з іх узровень нітратаў быў вышэйшы за норму.

– Я сама вясковая жыхарка, таму мне цікава, як адбіваецца чалавечая дзейнасць на якасці майго жыцця і жыцця маіх суседзяў, – кажа Аўгіня. – Важна ведаць не толькі, якая вада ў маім калодзежы, але і ў навакольных калодзежах, каб ведаць, што мае найбольшы ўплыў на яе якасць.

Вакол Лохаўшчыны ўсе п'юць калодзежную ваду, свідравін амаль няма. Мясцовыя жыхары маглі пакінуць заяўку на тое, каб да іх завітаў валанцёр з тэст-палоскамі. Калі Аўгіня заязджала да іх, то падцягваліся і суседзі, пыталіся пра лішнія тэст-палоскі.

– Усім важна ведаць, якую ваду яны п'юць, – зазначае жанчына. – Многія, у каго вынік быў дрэнны, так і працягваюць піць ваду з нітратамі – ну, не купляць жа ваду ў крамах у бутэльках! А зрабіць часам нічога немагчыма, бо калодзежы знаходзяцца ў нізінах, а вакол – калгасныя палі, з якіх усё сцякае ў калодзежы. Адзіны шлях – змаганне з калгасамі, але гэта доўгі і складаны шлях.

> **Быў і адзін прыклад, калі пасля дрэнных вынікаў аналізу гаспадар параўняў верхняе кальцо калодзежа, замазаў усе шчыліны, зрабіў своеасаблівы фільтр, паправіў дамок над калодзежам, выкачаў старую ваду – і новая была ўжо чыстая.**

### Далучыцца да праекта можна цэлым класам

Менавіта так зрабілі вучні сёмага класа Любанскай школы Вілейскага раёна. У выніку яны праверылі больш за 40 калодзежаў.

– Я сама вельмі загарэлася гэтай ідэяй, – кажа настаўніца хіміі і класны кіраўнік **Святлана Сялюн**. – А калі самой цікава, то лёгка зацікавіць і дзяцей. Спачатку ў нас быў падрыхтоўчы этап на ўроках хіміі, а пасля пачалася практыка.

Да таго ж клас далучыўся да агульнарэспубліканскага флэшмобу па вымярэнні ўзроўню грунтавых вод. На Вілейшчыне вынік не адрозніваўся ад сярэдняга па краіне – у выніку сухога лета і невялікіх асадкаў узровень вады ў калодзежы панізіўся цягам года.

– Цяпер да даследавання вады мы дадалі прыборку смецця, – кажа настаўніца. – Былі ў шоку, колькі яго збіраецца ў вёсцы. Ёсць над чым працаваць.

### Нітраты трапляюць і ў крыніцы

На пачатку кастрычніка адмысловую экспедыцыю па крыніцах зладзіў для сваіх навучэнцаў **Міхась Петух**, кіраўнік турклуба «Чарапашкі» Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі.

– У 2010 годзе выйшла карта крыніц Вілейскага раёна, – кажа Міхась Петух. – Мы вырашылі праверыць, ці яны яшчэ існуюць, а таксама пашукаць новыя. Вядома, за адну экспедыцыю ўсяго не паспееш. Але тыя, якія знайшлі, заадно праверылі на нітраты. Да таго ж праверылі прытокі Віліі і Нарачанкі, каб зразумець, адкуль ідзе забруджванне рэк.

Прытокі правяралі на байдарках, а крыніцы шукалі на лодках і роварах. Шлях не з лёгкіх, таму ў экспедыцыю патрапілі толькі падрыхтаваныя і з досведам школьнікі.

Увесну многія з іх даследавалі вытокі рэк – тады некаторыя ўдзельнікі праехалі больш за тысячу кіламетраў. Паспелі і высадзіць саджанцы кедраў ля спаленай вёскі Боркі. Калі дрэвы падрастуць, то з вышыні павінны скласціся ў надпіс «перамога» – пасадку прымеркавалі да 9 мая.

– Чаго толькі не было падчас экспедыцый – і лясныя завалы праходзілі, і моцным ветрам нас на роварах здзімала ў кювет, – прыгадвае Петух. – Усе дзеці добра трымаліся. Найбольш актыўнымі былі **Насця і Лёша Астрэліны**. Вялікі аб'ём працы выканалі таксама дзеці з Вілейскай школы-інтэрната.

У кастрычніку выхаванцы Петуха праверылі 36 крыніц на берагах Нарачанкі. Трацiна з іх мае павышаны ўзровень нітратаў.

Каб і надалей працягваць такія экспедыцыі, турклубу трэба ровары. Таму калі вы маеце старыя і непатрэбныя, якія стаяць без справы, можаце перадаць іх турклубу. Тут іх адновяць і будуць выкарыстоўваць для добрых спраў.

### Не паспелі далучыцца да праекта? Яшчэ не позна!

– Галоўная ідэя, якую мы хочам данесці людзям, – важна ведаць, што палова вады ў рэгіёне забруджаная, – падсумоўвае Ларыса Якавюк. – Таму, па-першае, трэба абавязкова правяраць, што вы п'яце. Асабліва калі ў вас ёсць малыя дзеці. А па-другое, сачыць за тым, каб самім па няведанні не забруджваць ваду, якая ёсць побач.

**Калі ж вы не паспелі паўдзельнічаць у праекце, а праверыць ваду хочаце, то такая магчымасць яшчэ ёсць – праз рэдакцыю вы можаце звязацца з Ларысай Якавюк і атрымаць тэст-палоскі. Для гэтага напішыце ліст з пазнакай «Вада» са сваімі кантактамі на пошту regionnews@rh.by.**

А калі вы маеце ўласную гісторыю, звязаную з якасцю вады ў рэгіёне, і гатовыя яе расказаць – звязвайцеся з аўтарам гэтага матэрыялу.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## ЯК ВЫКАПАЦЬ БЯСПЕЧНЫ КАЛОДЗЕЖ

1. **Мінімум 50 м ад крыніц хімічнага ці мікробнага забруджвання вады** (агароды, ямы для гною, лазні, стокі з сельскагаспадарчых палёў, туалеты, яма якіх не ізаляваная).
2. **Мінімум 30 м ад магістраляў** з інтэнсіўным рухам.
3. **Аголовак калодзежа – не менш за 0,7 метра** вышынёй. Над ім – накрыўка.
4. **Вакол калодзежа – так званы «гліняны замок»** (як на малюнку), глыбіня 2 метры і шырыня 1-2 метры.
5. **Загерметызаваць цэментам швы** паміж кольцамі калодзежа.
6. **Забяспечыць адвядзенне дажджавой (талай) вады.** Гэта можа быць дамок, дах над усім калодзежам.




## Крыніцы забруджвання падземных водаў





Выставу работ удзельнікаў конкурсу малюнкаў можна пабачыць у бібліятэцы «Верасок».

# Выбралі пераможцаў конкурсу малюнкаў па матывах нямецкіх казак

**Урачыстасць па ўзнагароджанні конкурсу малюнкаў адбылася на ганку бібліятэкі «Верасок» у аўторак, 3 лістапада.**

Ад 18 верасня да 3 лістапада маладзечанская бібліятэка імя Максіма Багдановіча ладзіла мерапрыемствы ў межах культурных і адукацыйных праграм аб Германіі. Мерапрыемствы адбываліся ў партнёрстве з Амбасадай Германіі ў Беларусі.

У гэтым годзе ў межах сумеснага праекта адбылося некалькі актыўнасцяў, сярод іх конкурс малюнкаў «Ілюстрацыі да твораў нямецкіх аўтараў для дзяцей». У межах праекта ладзілі агляды нямецкай літаратуры для дзяцей і падлеткаў, а таксама літаратурныя гасцёўні «Творчасць Отфрыда Пройслера» і «Самыя дзіўныя куткі Германіі».

Каб узнагародзіць пераможцаў конкурсу малюнкаў, бібліятэка зладзіла свята. Атмасферу ўрачыстасці задалі скрыпачы **Вольга Козік** і **Валянціна Сцяпанава**.

Усяго ў конкурсе ўдзельнічала 39 школьнікаў – вучні маладзечанскай мастацкай школы і санаторнай школы-інтэрната №1. Кожны з удзельнікаў атрымаў падарункі, фінансаваныя Амбасадай Германіі ў Беларусі.

**Некаторыя ўдзельнікі атрымалі адметныя падарункі – з вывай свайго малюнка на значку або палатнянай торбе.**

Пераможцаў абіралі мастакі, на сваце ад імя журы выступіў **Рыгор Мяжуеў**. Мастак адзначыў, што працы былі арыгінальныя, і абіраць пераможцаў было не проста. Таксама заклікаў школьнікаў працягваць маляваць, таму што «толькі ў творчасці чалавек бывае свабодным».

Сярод школьнікаў 10-12 год першае месца ўзяла **Вераніка Мацюк** з працай «Маленькі вадзяны», другое – **Яна Пагуда** таксама з працай на твор «Маленькі вадзяны». Трэцяе месца падзялілі **Яна Фалько** з творам «Маленькая Баба Яга» і **Дар'я Ісакава** з творам «Шчаўкунчык».

У катэгорыі школьнікаў 13-15 год перамагла **Паліна Ганчыеўская** з работай «Карлік Нос», другое месца – у **Валерыі Ланюговай** з працай «Хлопчык з запалачнага карабка», трэцяе – у **Бажэны Собаль** з творам «Крабат».

Асобную перамогу атрымала **Хрысціна Тысеева** за малюнак па творы «Сем крумкачоў» – прыз глядацкіх сімпатый.

Пераможца Вераніка Мацюк вучыцца ў 7 «А» класе маладзечанскай гімназіі №7. Пра конкурс дзяўчынцы расказалі на ўроку кампазіцыі ў мастацкай школе. Спачатку яна хацела намаляваць карціну па іншым творы, але пасля абрала твор «Маленькі вадзяны». Падумала, што будзе лёгка намаляваць.

– Праўда, лёгка намаляваць не атрымалася, – усміхаецца Вераніка. – Доўга выбірала, як будзе выглядаць персанаж. Настаўніца Алена Валер'еўна падказала, што ён можа быць у касцюме аквалангіста. Праца заняла прыкладна два тыдні. Казка спадабалася. А што перамагу, не чакала.

На ўзнагароджанне Вераніка прыйшла з пяцігадовай сястрычкай **Анжалікай**. Яна таксама любіць маляваць, але, кажа старэйшая сястра, не хоча, каб яе вучылі.

Настаўніца **Алена Кучко** расказала пра тое, як яе падапечныя рыхтаваліся да конкурсу:

– Абмеркавалі з дзецьмі, каму які твор блізкі. Хто што абраў, па тым і пачаў маляваць. Тэхніку можна было абраць любую, якая бліжэй да душы.

**Важна, каб гэта была творчая праца, пошук вобраза.**

Свята вяла загадчыца залы літаратуры на замежных мовах **Таццяна Летунова**. Яна адзначыла, што ўрачыстасць давялося ладзіць на вуліцы:

– Калі пачыналі дні Германіі, у верасні, эпідэміялагічная абстаноўка была някепская. Пасля яна пачала пагаршацца. Партнёры з Амбасады прапанавалі зрабіць фармат конкурсу малюнкаў – малююць дзеці дома, гэта бяспечней. На вуліцы менш шанцаў заразіцца, і хацелася, каб дзеці адчулі свята, таму вырашылі правесці яго на вуліцы.





Пераможца конкурсу малюнкаў сярод школьнікаў 10-12 год Вераніка Мацюк. На торбе – выява яе карціны па матывах казкі «Маленькі вадзяны».

Падарункі ўдзельнікі атрымалі шыкоўныя, і самі малюнкі выдатныя. Выставу іх зладзілі ў адной з залаў бібліятэкі, усе хадзілі і захапляліся работамі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Руслан Кісялёў выходзіць з пад'езда свайго дома ў суправаджэнні сілавікоў.

# Што вядома пра затрыманне актывіста Руслана Кісялёва

МАЛАДЗЕЧНА

**4 лістапада, раніцай, адбыўся ператрус у маладзечанскага юрыста, блогера і актывіста Руслана Кісялёва. Пасля перартусу Кісялёва забралі следчыя ў Мінск. Расказваем, што нам вядома пра здарэнне.**


Сілавікі ў балаклавах выходзяць з дома пасля выняцця тэхнікі.

Пра тое, што ў Руслана плануюць перартрус, ён паведаміў у 9:30. У двары шматпавярхоўкі па Вялікім Гасцінцы стаяў цёмна-сіні бус, нумары АМ 0315-3. Яму пазваніў старшы оперупаўнаважаны **Дзмітры Мікалаевіч Пятроўскі**. Паведаміў, што Генеральная пракуратура санкцыянавала перартрус па месцы жыхарства Кісялёва.

«Давайце ўбачымся, інакш мы будзем ламаць дзверы», – сказалі яму па тэлефоне.

Кісялёў задаў пытанне, ці вядзецца нейкая справа ў адносінах да яго. Яму адказалі: «Крымінальная справа, якая расследуецца, засакрэчаная».

Прыкладна ў 10 гадзін пачаўся перартрус, ён доўжыўся каля гадзіны. Пры гэтым прысутнічаў Руслан і яго маці **Соф'я**. Калі ў кватэру зайшоў сябра Кісялёва, адзін з прысутных сілавікоў сказаў, што ён з Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй.

Такім чынам, меркавана на аперацыі былі задзейнічаныя дзве групы: адна на бусе з Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, другая на серабрыстым «Фольксвагене» з супрацоўнікамі Следчага камітэта.

Соф'я Кісялёва паведаміла, што з кватэры забралі ноўбук, тэлефон і электронныя носьбіты інфармацыі. Таксама ёй далі прачытаць пастанову, паводле якой праводзілі перартрус. Соф'я Кісялёва адзначыла, што там фігуравала больш за дзесяць крымінальных артыкулаў, якія дакладна, жанчына не запомніла.

> **– Як нам патлумачылі, гэта з-за таго, што Руслан выклаў на ютубе запіс размовы з прадстаўніком органаў унутраных спраў, – сказала Кісялёва журналістам «Рэгіянальнай газеты».**

Маці сказалі, што Руслана адвязуць у Цэнтральны апарат Следчага камітэта, які месціцца ў Мінску. Таксама сказалі, што, магчыма, Руслана адпусцяць адразу пасля размовы.

У гэты дзень каля 15 гадзін Руслан Кісялёў паведаміў, што яго выпусцілі са Следчага камітэта. Ён праходзіць па справе ў якасці сведкі. З ім ўзялі падпіску аб неразгалошванні.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



## Дзённік мамы чацвертакласніцы. Атрымалі першую сямёрку за чвэрць

**Скончылася першая чвэрць, працягваюцца восеньскія канікулы. А значыць, ёсць што напісаць у чарговы дзённік мамы.**

У апошні дзень чвэрці, пасля выстаўлення адзнак, Варвара патэлефанавала мне ў роспачы:

– Мама, у мяне сем за чвэрць па матэматыцы. Ніколі не атрымлівала менш за васьмёрку… Значыць, я ў чацвертым класе горш вучуся, чым Юля ў дзявятым…

Колькі ні кажу сваім дзецям, што школьныя адзнакі – гэта далёка не самае галоўнае ў жыцці, усё роўна хвалююцца і старэйшая, і малодшая. У старэйшай, дарэчы, у гэтай чвэрці адна васьмёрка – па рускай мове. Яна супакоіла сама сябе выказваннямі кшталту: затое па роднай мове – дзявятка.

А Варвару з цяжкасцю супакоіла я. Нават дамовіліся, што кожны дзень будзем трэніравацца – рашаць па два прыклады з падручніка. Таму канікулы праходзяць бясхмарна, з гасцяваннямі і пачастункамі ад бабулі, сустрэчамі на дзіцячых пляцоўках з сяброўкамі-аднакласніцамі. І па два прыклады штодзень рашаем, як дамаўляліся.

У гэтай чвэрці Варвару зацікавіў новы прадмет – Мая Радзіма – Беларусь. Цешыць яе і беларуская мова выкладання, і цікавыя звесткі з гісторыі нашых продкаў. Падзялілася, што ўжо чакае, калі ж пачнецца гісторыя ў пятым класе. І вельмі хоча, каб яе выкладаў любімы Юлін настаўнік гісторыі – **Дзмітры Станіслававіч**.

Яшчэ адзін яркі момант – дзень народзінаў у верасні. Запрасілі сяброўак, паелі ласункаў, падурэлі. Юля распрацавала культурную праграму з гульнямі і загадкамі. Пасля дня народзінаў Варвара займела гадаванца – сяброўка **Яна** падарыла рыбку-пеўніка адразу з акварыумам, водарасцямі і кормам. Да абавязкаў дадалося – кармленне рыбкі раніцай.

Канцэртаў ды паездак у чвэрці асабліва не было – не тая сітуацыя ў краіне. Неяк раз ігралі на дудках у школе для першакласнікаў.

Тыдзень у дзіцяці загружаны. Амаль штодзень ці дудка, ці танцы, ці факультатыў па беларускай мове. Але ходзім на ўсё. Бо, па словах Варвары, з танцаў адпісвацца нельга, з беларускай мовы – таксама, бо яна ж родная, а выкладчыка дудкі **Сяргея Пятровіча** яна любіць. Вось і прыходзіць часам са школы, як бацькі пасля васьмігадзіннага працоўнага дня.

Нягледзячы на тое, што да Новага года яшчэ няблізка, дачка задумваецца пра падарунак. З ім пакуль не вызначылася. Затое з карнавальным касцюмам пытанне вырашанае – ёсць яркае і ўтульнае кігурумі ў выглядзе адзінарога. Чым не касцюмчык?

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**


Восеньская фотасесія.

## Форвард «Гарадзеі» Шавель атрымаў 13 сутак

Форварду «Гарадзеі» **Расціславу Шавелю** прысудзілі 13 сутак арышту за ўдзел у мірным маршы пратэсту 1 лістапада.

Яму было прад'яўленае абвінавачванне па артыкуле 23.34 КаАП. Вінаватым ён сябе не прызнаў.

Форвард ужо раней прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці па гэтым жа артыкуле, адседзеўшы 8 сутак.

**Паводле «Трыбуны».**

## Кубак Прэзідэнцкага спартыўнага клуба адменены

Міжнародны турнір па хакеі з шайбай сярод юніёрскіх зборных камандаў «Кубак Прэзідэнцкага спартыўнага клуба», запланаваны на 5-7 лістапада, адменены па прычыне ўспышкі вірыснай інфекцыі сярод гульцоў адной з камандаў.

У адзіным турніры падчас міжнароднай паўзы павінны згуляць зборныя каманды Беларусь U18, Беларусь U17, Расія U17 і Расія U16.

У мэтах выканання рэкамендацый органаў аховы здароўя па мінімізацыі рызыкі распаўсюджання інфекцыі і бяспецы здароўя ўдзельнікаў, прынята рашэнне аб адмене Кубка Прэзідэнцкага спартыўнага клуба 2020 года.

**Паводле hockey.by.**

## 96,7% сярод амаль 20 тысяч прагаласавалі за адмену ЧС у Мінску

Платформа «Голас» праводзіць апытанне: ці трэба адмяніць правядзенне ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі-2021.

Па стане на 3 лістапада прагаласавала 19601 карыстальнік. 96,7% галасуюць за адмену турніру, 1,72 – супраць адмены, 1,57 – цяжка адказаць.

**Паводле платформы «Голас».**

## Галоўны трэнер зборнай Беларусі па самба звольнены з пасады

Галоўны трэнер зборнай Беларусі па самба **Дзмітры Базылёў**, які падпісаў ліст спартсменаў супраць гвалту і за сумленныя выбары, звольнены з пасады.

Базылёў – самы тытулаваны самбіст у гісторыі Беларусі, 6-разовы чэмпіён свету цяпер працуе звычайным трэнерам у Цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі.

– Нас прыраўнялі да здраднікаў. Гэта яшчэ, напэўна, адгалоскі савецкіх часоў: калі ты не за нас, значыць, ты супраць нас. Мы ж не супраць кагосьці выступаем. У лісце мы выкалі свае прычыны. Мы не маглі заставацца ўбаку, – сказаў Базылёў.

**Паводле «Трыбуны».**

## Міністр спорту даручыў забяспечыць штодзённае правядзенне ідэалагічных гутарак са студэнтамі БДУФК

У Міністэрстве спорту і турызму адбылася нарада з кіраўнікамі структурных падраздзяленняў і падпарадкаваных арганізацый.

Па выніках пасяджэння міністр спорту Беларусі **Сяргей Кавальчук** даручыў «забяспечыць штодзённае правядзенне ідэалагічных гутарак са студэнтамі БДУФК усіх груп з I па IV курсы з улікам наяўнай грамадска-палітычнай сітуацыі».

У пратаколе пазначана, што тэрмін выканання даручэння – ад 2 лістапада да стабілізацыі грамадска-палітычнай сітуацыі.

**Паводле «Трыбуны».**

## Зборная Беларусі па баскетболе згуляе ў кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы

Жаночая зборная Беларусі па баскетболе на наступным тыдні згуляе другі матч у кваліфікацыі да чэмпіянату Еўропы-2021.

**Наталля Трафімава**, якая ўзначальвае нацыянальную каманду, адправіцца з баскетбалісткамі ў Стамбул. Там 12 лістапада беларускі згуляюць супраць зборнай Польшчы.

Першую гульню ў кваліфікацыі беларускія баскетбалісткі правялі яшчэ ў 2019 годзе. Тады падапечныя галоўнага трэнера зборнай Наталлі Трафімавай перамаглі Вялікабрытанію – 90:59. Цяпер Беларусь знаходзіцца на другім месцы ў сваёй групе.

**Настасся УТКІНА.**



Маладзечанскія футбалісты сярод іншых атрымалі буйное паражэнне.

Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

# Футбольныя каманды рэгіёна прайгралі ў апошніх матчах тура

**«Рэгіянальная газета» працягвае назіраць, як каманды рэгіёна гуляюць у першай і другой лігах чэмпіянату Беларусі.**

«Астравец» завяршыў выступленне на дзявятым месцы ў другой лізе. У першай лізе за лепшыя месцы змагаюцца «Ашмяны» і «Смаргонь». У другой лізе за выхад у першую гуляе «Маладзечна».

### «Ашмяны»

31 кастрычніка «Ашмяны» згулялі ў гасцях супраць «Гомеля». Гамяльчане без праблем перамаглі ў сустрэчы – 2:0. За «Гомель» забівалі **Арцём Васькоў** і **Дзмітры Гамза**.

Ашмяны знаходзяцца на дзявятым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі (6 перамог, 8 нічых, 9 паражэнняў).

### «Смаргонь»

31 кастрычніка смаргонцы таксама былі ў гасцях у Гомелі, аднак у мясцовага «Лакаматыва». Гульня для смаргонскай каманды завяршылася паражэннем – 1:2. За «Лакаматыў» забівалі **Ілля Шабанаў**, **Яўген Кудаш**. Гол апошняй надзеі на 88-й хвіліне за «Смаргонь» забіў **Іван Маўчанаў**. Гульня атрымалася з пяццю жоўтымі карткамі. Суддзя Дзмітры Дзмітрыеў даў гомельскім футбалістам тры карткі – **Уладзіславу Ляху**, **Паўлу Кляньё**, Іллю Шабанаву. Па-пярэджанні ў выглядзе жоўтых картак атрымалі і смаргонцы – **Пётр Казанцаў** і **Яўген Севасцьянаў**.

«Смаргонь» знаходзіцца на шостым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі (8 перамог, 6 нічых, 8 паражэнняў).

### «Маладзечна»

Маладзечанцы згулялі чарговы матч у фінальным этапе другой лігі. Сапернікам зялёна-белых стала магілёўскае «Дняпро». Маладзечанцы гулялі на дамашнім полі дняпроўскіх футбалістаў і прайгралі сустрэчу з буйным лікам – 0:4. За «Дняпро» забівалі двойчы **Кірыл Сідарэнка** (мог павялічыць лік на табло, але не рэалізаваў пенальці ў адным з момантаў), **Максім Рыбакоў** і **Кірыл Гусеў**.

«Маладзечна» знаходзіцца на другім месцы ў турнірнай табліцы другой лігі.

**Настасся УТКІНА.**

## Як у гэтым сезоне гуляе «Дынама-Маладзечна»

**У маладзечанскіх дынамаўцаў былі сур'ёзныя перастаноўкі ў гэтым міжсезонні: змяніўся галоўны трэнер, завяршыўся судовы працэс над гульцамі, што ў мінулым лістападзе правялі дамоўны матч. Расказваем, як цяпер выступае каманда пад кіраўніцтвам Канстанціна Кальцова.**

«Дынама» пачало сезон з гульні супраць «Нёмана» на пачатку верасня, у якой дынамаўцы перамаглі ў серыі булітаў. Далей падначаленыя Кальцова гулялі з пераменным поспехам.

> Самая буйная перамога ў маладзечанцаў трапіла на матч з «Магілёвам» – 8:1.

А самае буйное паражэнне дынамаўцы атрымалі ад сталічнага «Юнацтва» з лікам **3:6**.

Лепшымі бамбардзірамі ў маладзечанскай камандзе з'яўляюцца **Дзмітры Амбражэйчык** (14 ачкоў), **Кірыл Нікулін** (13 ачкоў) і **Аляксандр Савараў** (12 ачкоў). Лепшыя абаронцы – **Павел Капыцін**, **Генадзь Касінскі**, **Андрэй Герашчанка**.



Адзін з момантаў гульні.

Фота прэс-службы «Дынама-Маладзечна».

4 лістапада стала вядома, што са складу маладзечанскай каманды сыходзіць у «Віцебск» галкіпер **Павел Капскі**.

> Наступную гульню дынамаўцы правядуць толькі 10 лістапада.

Сапернікам будзе жлобінскі «Металург».

**Настасся УТКІНА.**

